

Магілеўскі
# ВЫБАР
Абласная Дэмакратычная Трыбуна

№ 5 (31)
Верасень
2014 г.

# МОЛОЧНЫЙ ПАРАДОКС:
## коров стало больше, а молока - меньше



На белорусском молочном фронте без перемен. Официальная статистика скупо извещает: битва за высокие удои идёт в непростых условиях, молочно-товарные фермы нуждаются в пополнении поголовья, ряд районов сдали ранее достигнутые позиции. На сельхозпередовой уже разносятся панические слухи о продовольственном окружении как с Запада, так и с Востока. И только Ставка в лице Минсельхозпрода заверяет аграриев, что отступления не будет. Позади Москва, товарищи, а она купит всё, что произведёт и вырастит Беларусь!

Из самой последней «фронтовой» сводки можно узнать, что ***«за первое полугодие снижение производства молока допустили 62 района, в том числе - 18 на Витебщине, 15 - на Минщине, 13 - на Могилёвщине, 6 - на Гомельщине и по 5 - на Брестчине и Гродненщине»*** («Сельская газета» от 12 августа). Положение хуже некуда, но даже эти неприглядные данные, похоже, не полностью отражают реальную ситуацию на местах. Во всяком случае, областной агропромышленный еженедельник Могилёвщины написал, что ***«за полугодие снижение производства продукции сельского хозяйства в хозяйствах всех категорий допущено 17 районами области»*** («Зямля і людзі» от 13 августа).

Показательно, что за январь-июнь организациями АПК области выполнены только 3 из 8 прогнозных показателей и заданий. Производство молока за этот период составило 354 тыс. тонн, или 98,5% к уровню аналогичного периода минувшего года. В области лишь семь районов смогли обеспечить прирост производства молочной продукции. Такие же тенденции в целом по стране. Не зря в аналитическом обзоре, подготовленном «Сельской газетой», то ли удивлённо, то ли возмущённо констатируется: ***«Количество коров за январь - июнь увеличилось в стране на 1,7% и составило 1,4 миллиона. Но молока-то произведено меньше!».***

Впрочем, отдадим должное редакции главной газеты белорусских аграриев, там прекрасно понимают, что для подлинного успеха одного производства молока недостаточно. Поэтому тем, кто ещё не уяснил эту очевидную истину, с укоризной разъясняется: ***«Можно сколько угодно произвести продукции, но куда важнее - побольше и подороже продать её, выручив побольше денег».*** Мы целиком согласны с таким выводом и готовы подкрепить его соответствующим примером из местных реалий.

Так, в Климовичском районе за последние годы производство молока хоть и медленно, но всё-таки увеличивалось. Было время, когда по данному показателю Климовщина замыкала список из 118 районов. Потом подтянулась до 108-го места, а по итогам этого полугодия очутилась уже на 103-м. Таким образом, рост производства имеется, что никто не собирается отрицать. Тем не менее повторим вслед за «Сельской газетой»: ***«Можно сколько угодно произвести продукции, но куда важнее - побольше и подороже продать её, выручив побольше денег».*** А вот с этим наблюдаются явные накладки.

Именно по реализации молока Климовичский район находится сейчас в самом конце среди всех районов страны! Как показывает мониторинг, в этом году климовичскими сельчанами реализовано 81,9% от производства молока. Куда же уходит почти пятая часть произведённого? Вопрос не случаен, ведь практически везде процент реализации выше, в абсолютном большинстве районов он колеблется от 85% до 92%. Так что климовчанам есть на кого равняться. Это подтверждает и решение недавно состоявшейся коллегии комитета по сельскому хозяйству и продовольствию облисполкома. В принятом постановлении коллегии признана неудовлетворительной работа в первом полугодии руководителей райсельхозпродов 10 районов области, в том числе Климовичского.

*Тимур НЕЗВАНОВ.*

У Магілёве прайшла вечарына памяці Генадзя Судніка

# Пакінуць след

24 жніўня ў Магілёве ўшанавалі памяць выдатнага журналіста, шматгадовага кіраўніка мясцовай філіі ГА "БАЖ" Генадзя Вітольдавіча Судніка, які сыйшоў з жыцця год таму.

Вечарына памяці Генадзя Судніка адбылася ў грамадскім цэнтры "Кола", дзе сабралася больш за пяцьдзясят сяброў Генадзя Вітольдавіча, яго паплечнікаў па журналісцкай і грамадскай дзейнасці, родных і блізкіх.



*Беларуская нацыянальная журналістыка як прафэсія, што па вызначэнні мае грамадзянскую місію адказнасці за змест, інфармацыйны складнік і праўдзівасць кожнага свайго слова, сваімі высілкамі ратуе грамадства. Бо – настойліва і ўпарта, цвёрда і непахісна падае сігнал аб тым, што для прыстойнага жыцця і для будучага дзяцей недастаткова быць насельніцтвам на пэўнай тэрыторыі, а варта і неабходна як мага шчыльней і хутчэй станавіцца народам і краінай.*

**Генадзь СУДНІК.**

Прысутныя ўзгадвалі Генадзя Вітольдавіча як светлага і інтэлегентнага чалавека, сапраўднага майстра сваёй справы, які назаўсёды ўвайшоў у гісторыю горада Магілёва як першы старшыня Магілёўскага тэлерадыёкамітэта, стваральнік газеты "Тыднёвік Магілёўскі" і шматгадовы нязменны кіраўнік мясцовай філіі ГА "БАЖ".

Вядомы беларускі журналіст, старшыня камісіі па этыцы ГА "БАЖ" Анатоль Гуляеў, які шмат гадоў сябраваў з Генадзем Суднікам і з якім ён сумесна працаваў яшчэ ў газеце "Магілёўская праўда", у сваім выступе адзначыў, што асабіста для яго Генадзь Вітольдавіч з'яўляўся першым сябрам і першым настаўнікам. Словы Генадзя Вітольдавіча пра тое, што *"годны публікацыі толькі той матэрыял, які ўтрымлівае новы факт альбо новую думку"*, ён запомніў на ўсё жыццё.

Шмат цёплых слоў сказаў у сваім выступе і намеснік старшыні ГА "БАЖ" Андрэй Бастунец. Узгадаўшы словы Генадзя Вітольдавіча пра тое, што *"БАЖ уратаваў сэнс і гонар беларускай журналістыкі"*, ён адзначыў, што ў тым ліку і Генадзь Суднік уратаваў сэнс і гонар журналістыкі, бо ён быў адным са стваральнікаў гэтай арганізацыі. Генадзь Вітольдавіч на працягу шмат гадоў уваходзіў у склад Рады ГА "БАЖ", на апошнім з'ездзе ён быў таксама абраны і сябрам праўлення арганізацыі.

Падзяліліся сваімі ўспамінамі пра Генадзя Вітольдавіча Судніка таксама Віталь Васількоў,Уладзімір Капуза, Ігар Пушкін,Міхась Булавацкі, Аліна Скрэбунова і іншыя яго сябры і паплечнікі.

Удава Генадзя Вітольдавіча, Ніна Уладзіміраўна, падзякавала прысутным за тое, што яны захоўваюць добрую памяць пра яе мужа. Асаблівую падзяку Ніна Уладзіміраўна выказала Віталю Васількову і магілёўскім журналістам Ганне Ільіной і Сяргею Стральцову, якія аказалі ёй вялікую дапамогу ў падрыхтоўцы вечарыны памяці.

Напрыканцы прысутныя разам праспявалі любімую песню Генадзя Вітольдавіча "Паляцяць у вырай гусі".

***Барыс ВЫРВІЧ.***



# Шутят с огнём

**По имеющейся информации, более двухсот жителей Кричевского района подписали обращение в адрес Администрации президента, в котором просят оказать содействие в скорейшем вводе в эксплуатацию нового хирургического корпуса Кричевской центральной районной больницы.**

**Согласно утверждённому проекту, сроком окончания строительства этого крайне важного для нашего города и района объекта должен был стать конец октября 2014 года. Однако из-за бюрократических проволочек, связанных с отсутствием полного и своевременного финансирования по вине руководства Кричевского райисполкома (В. Сысоев) и ЦРБ (А. Плетнёв), Могилёвского облисполкома (П. Рудник), строительство хирургического корпуса превратилось в очередной долгострой. А ведь этого никак нельзя было допускать. Ведь ни для кого в Кричеве не секрет, что главный корпус районной больницы, где расположено несколько стационарных отделений, в том числе и детское, находится в аварийном состоянии. Там в качестве перекрытия второго этажа лежат деревянные балки. А здание построено более 50 лет тому назад. Кроме того, в ходе ремонта второго этажа, деревянное покрытие пола в ряде мест заменили на керамическую плитку, положенную на бетонное основание. В общем, «бомбочка» ещё та! Но, видимо, чиновники райисполкома и облисполкома всё ещё ищут приключений на собственные головы. Им мало катастрофы в результате обрушения части здания гимназии, где только по счастливой случайности не погибли люди. Ждут, когда это, не дай Бог, произойдёт в районной больнице? Тогда и деньги найдутся, и темпы строительства вырастут, но ведь людские жизни не вернёшь!**

**Василий ЧУБ.**

# У шклоўскіх чыноўнікаў як у байцы Крылова

У зяцца за дадзены артыкул мяне падштурхнуў атрыманы, нарэшце, адказ на мае звароты ў Шклоўскі райвыканкам. І я думаю, што паважаным землякам будзе цікава яшчэ раз удаставерыцца ў тым – як працуюць шклоўскія "слугі народу".

А сутнасць справы ў тым, што ажно 25 красавіка 2014 года па даручэнні грамадскай ініцыятывы "Шклоўскі Магістрат" я звярнуўся да старшыні райвыканкама з шэрагам прапановаў, што тычацца часоў XV-XVIII стагоддзяў, калі горад Шклоў меў прывілеі на стварэнне органа самакіравання – магістрата, з атрыманнем герба і пячаткі (Магдэбургскае права).



З атрыманнем Магдэбургскага права, эканамічны стан Шклова ў тыя часы значна ўзрос і быў самы высокі за ўсе часы існавання горада.

Таму ад імя "Шклоўскага Магістрата" я прапанаваў старшыні райвыканкама прыняць рашэнне аб размяшчэнні на гарадской Ратушы (захавалася з тых часоў) памятнай шыльды з інфармацыяй аб тых гістарычных падзеях.

Па-другое, была ўнесена прапанова – Шклоўскаму райвыканкаму выступіць з ініцыятывай перад кіраўніцтвам краіны аб стварэнні на тэрыторыі горада свабоднай эканамічнай зоны, што надасць новы станоўчы імпульс для эканамічнага развіцця раёна. Разам са зваротам да старшыні райвыканкама былі перададзены і шэраг напрацовак і прапановаў ініцыятывы па рэфармаванню эканомікі Шклоўшчыны.

Нажаль, адказу на працягу месяца, як гэта патрабуе беларускае заканадаўства, з райвыканкама атрымаць не ўдалося. Чыноўнікі проста праігнаравалі дадзены зварот і прапановы. Як праігнаравалі і паўторны зварот на дадзеную тэму ад 16 чэрвеня гэтага года.

Устрапянуліся яны толькі пасля нашага звароту па гэтым пытанні да старшыні Магілёўскага аблвыканкама і пракурора Шклоўскага раёна.

У сваім адказе ад 22.08.2014 г. старшыня райвыканкама А.Бойка абяцае, што пытанне аб размяшчэнні шыльды з інфармацыяй аб тых гістарычных падзеях будзе дадаткова разгледжана.

А вось з прапановамі аб стварэнні свабоднай эканамічнай зоны і рэфармаванні эканомікі раёна старшыня не пагадзіўся, спасылаючыся на тое, што Шклоў і Шклоўскі раён і так развіваюцца ўстойліва ў адпаведнасці з Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Шклоўскага раёна на 2011-2015 гады. І, нават, прапанаваў азнаёміцца з гэтай Праграмай.

Дазволю тут сабе не пагадзіцца з падобнымі завярэннямі аб паспяховасці развіцця раёна. Бо не ад дабра многія шклаўчане шукаюць "шчасце" як за межамі раёна, так і за межамі краіны. Не ад дабра кожны год насельніцтва раёна скарачаецца на некалькі соцен чалавек.

А што скажа старшыня на тое, што некаторыя вядучыя прадпрыемствы горада і раёна на сённяшні дзень сталі стратнымі? У той жа час у апошнія гады ўсю краіну ўскалыхнулі шэраг карупцыйных скандалаў з удзелам чыноўнікаў Шклоўскага райвыканкаму і шэрагу прадпрыемстваў раёну...

У загалоўку дадзенага артыкула я скарыстаў параўнанне справаў шклоўскіх чыноўнікаў з творам Крылова. І паважаны чытач можа не адразу зразумець – пры чым тут байкі…

А ўсё вельмі проста. Як пазначана ў дазеным лісце з райвыканкама, да падрыхтоўкі адказу на мой зварот акрамя старшыні былі прыцягнуты яшчэ трое чыноўнікаў. Гэта намеснік старшыні райвыканкаму Гузаў, загадчык ідэялагічнага аддзелу Артамонаў, загадчык аддзелу па працы са зваротамі грамадзян Ігнатовіч. Гэта значыць, што ажно чацвера чыноўнікаў амаль чатыры месяцы сачынялі адказ падобны на байку. Працуючы чатыры месяцы над адказам, яны яшчэ ўпадобіліся чатыром героям аднаго з твораў вядомага байкапісца, што імкнуліся сыграць "квартэт"…

Напрыканцы дадзенага расповяду, хачу паабяцаць паважаным землякам працяг гэтага артыкулу, з апісаннем далейшых падзей вакол узнятых пытанняў. У бліжэйшы час пастараюся азнаёміцца з Праграмай развіцця Шклоўскага раёну на 20011-2015 гады і расказаць ім, як "шчасліва" яны жывуць згодна пастаноў райвыканкаму.



*Намеснік старшыні партыі БНФ*
*Рыгор КАСТУСЁЎ.*

# Хотимский район:

## аграрная политика вчера, сегодня, завтра

***Поводом для написания этой статьи послужило негативное состояние дел в аграрном секторе Хотимского района и страны в целом. Я около сорока лет посвятил работе в сельском хозяйстве и могу компетентно сравнить то, что было, что есть и что нас ожидает в недалёком будущем.***

На протяжении своей жизни мне довелось сталкиваться с различными ситуациями, занимая руководящие должности в АПК, начиная от начальника свиноводческого комплекса по откорму 12 тысяч голов свиней в год, директора крупного совхоза в Могилёвском районе и до первого заместителя председателя Хотимского райисполкома, и одновременно начальника управления сельского хозяйства и продовольствия района. К сожалению, должен констатировать тот факт, что положение дел в сельском хозяйстве в последние годы ухудшается. Несмотря на огромные вливания денежных средств в сельскохозяйственную отрасль экономики страны, это не привело ни к каким положительным результатам. Скорее наоборот, идёт усугубление отрицательных тенденций, продолжается стагнация всей отрасли.

На основе своего опыта могу ответственно заявить: показатели 1989 года и 2013 просто несопоставимы. Если в 1989 году в Хотимском районе было реализовано мяса в живом весе 10026 тонн, то в 2013 - только 2258 тонн; производство молоко в 1989 году - 30078 тонн , а в 2013 - 18173 тонны; среднесуточный привес КРС в 1989 году - 586 грамм, а в 2013 - 542 грамма. Цифры по привесу КРС отличаются вроде бы незначительно, а между тем общая реализация мяса снизилась в разы. Удой молока на 1 корову в 1989 году составлял 2997 кг, а в 2013 - 3375 кг. Численность КРС в 1989 году составляла 32768 голов, а в 2013 – 21418 голов. Также хотелось бы отметить, что в хозяйствах Хотимского района в 1989 году насчитывалось 12453 голов свиней, которых сейчас просто нет.

С чем связаны такие печальные результаты в развитии сельскохозяйственной отрасли Хотимского района? Ответ на этот на вопрос на протяжении последних полтора десятка лет безуспешно ищут наши властные структуры. Увы, никаких кардинальных перемен в лучшую сторону нет и не предвидится. Одним из определяющих факторов является то, что во времена СССР кадровой политикой занимались райком КПСС, райисполком и управление сельского хозяйства, и их работа была значимой и плодотворной. Каждый специалист, который проявлял себя как активный производственник, брался на заметку, состоял в резерве кадров и имел мотивацию показывать достойные результаты для дальнейшего роста по службе. В те времена, как это ни странно, на каждую должность было в резерве кадров по 2-3 человека, что обеспечивало конкурентность в назначении на руководящие должности. За последние годы всё изменилось далеко не в лучшую сторону. Организационно-кадровый отдел Хотимского райисполкома, скажем прямо, не справляется со своими функциями. Вместо того, чтобы заниматься целенаправленной политикой по подбору и расстановке квалифицированных кадров, он занял позицию стороннего наблюдателя и пустил этот процесс на самотёк. На сегодняшний день в Хотимском районе новых кадров в сельскохозяйственном производстве практически нет. Сложилась своеобразная кадровая «карточная колода», которую постоянно тасуют, меняя местами руководящие кадры. Есть руководители, которые по третьему кругу возглавляют сельскохозяйственные предприятия района. О какой мотивации работать на реальный результат может идти речь, если руководитель знает, что в любом случае он останется в системе, а возможно, будет выдвинут (ведь конкуренции нет) на более ответственную должность. Последствия очевидны.




Ещё один аспект данной проблемы – это невозможность руководить и управлять сельскохозяйственной отраслью и предприятием, не оглядываясь на вышестоящие инстанции. Действует правило: «Делай так, как мы скажем», а при отрицательном результате «крайним» сделают тебя. Это негласный закон. Если ты его не выполняешь, ты не в «обойме». Поэтому руководители предпочитают ничего не делать самостоятельно, не проявляют никакой инициативы, опасаясь за своё будущее.

Немаловажным фактором, усугубляющим данную ситуацию, является непродуманная, а

в общем-то и не доведённая до логического завершения, программа специализации и кооперации хозяйств, ведущая к иждиведевенчеству и безответственности руководителей и специалистов хозяйств Хотимского района. Многоплановость производства сельскохозяйственной продукции в прежние времена позволяли компенсировать неурожай одной культуры высоким урожаем другой. Аналогично и в животноводстве.

В 1989 году в Хотимском районе было 15 сельскохозяйственных предприятий, 2 завода по переработке сельхозпродукции и 4 организации, обслуживающие данную отрасль. На сегодняшний день в районе осталось 5 сельскохозяйственных предприятий (СПК и ОАО), 1 завод и 2 организации. В 1989 году в районе насчитывалось 237 населенных пунктов, сейчас осталось 43. Цифры ужасают. Раньше был актуален лозунг *"Сотрём грань между городом и деревней"*, но получился парадокс - стёрли деревню: население Хотимского района в 1989 году составляло более 25 тысяч, а на 1 января 2013 года - 11615. Комментарии излишни.

По моему мнению, самый большой вред развитию сельхозпроизводства в нашей стране нанесла политика укрупнения сельскохозяйственных предприятий. В Хотимском районе вместо имевшихся ранее 37 молочно-товарных ферм теперь 5 молочно-товарных комплексов. Также, к примеру, на 1 рубль произведённой сельхозпредприятиями района продукции в 2013 году приходилось 40 рублей кредитов - и, тем не менее, эти огромные вложенные средства не оправдали себя и на 50% .

Отдельный момент - зоогигиенические условия содержания животных на крупных комплексах в Хотимском районе. Там наблюдается несоответствие параметрам общеевропейских стандартов и норм содержания КРС, что приводит к преждевременой выбраковке продуктивных животных. Если на обычных фермах корова содержится 7-9 лактаций, то, к сожалению, стало обычным явлением, когда на крупных комплексах коровы выбраковываются на 3-4 лактации, а то и раньше. Ранняя выбраковка коров приводит к неоправданным и неокупаемым затратам на выращивание нетелей и их закупку. И всё это сдерживает развитие сельскохозяйственного производства.

И последнее. Есть ли на сегодняшний день хозяин на земле?

Четыре последних указа Президента РБ, касающихся реорганизации сельскохозяйственных предприятий, подводят жирную чёрную черту под всеми виртуальными надеждами на светлое завтра деревни, если таковая останется в принципе. По моему глубокому убеждению, если в корне не поменять вектор движения и подходы власти к данной, можно сказать, катастрофе, мы рискуем остаться в продовольственной зависимости от других стран.



*Валерий КОРОНКЕВИЧ.*

# "Наш Магілёў" не здаецца

**Незалежны журналіст падаў касацыйную скаргу ў Магілёўскі абласны суд**

Магілёўскі журналіст, рэдактар газеты "Наш Магілёў" Ігар Барысаў накіраваў касацыйную скаргу ў Магілёўскі абласны суд.

У сваёй скарзе Ігар Барысаў патрабуе адмяніць рашэнне суддзі суда Магілёўскага раёна Станіслава Лёўчанкі ад 12 жніўня 2014 года.

Незалежны журналіст лічыць, што рашэнне суда Магілёўскага раёна можа быць адмененае проста па фармальных прыкметах, бо ў судзе не не было ўстаноўлена, якую друкаваную прадукцыю ён перавозіў на сваёй машыне (улёткі, бюлетэні ці газеты), які з пунктаў артыкула 17 закона "Аб СМІ" ён парушыў, а таксама тое, што пратакол судовага пасяджэння адрозніваецца ад матывіровачнай часткі пастановы суда.

Таксама І.Барысаў выказвае меркаванне, што рашэнне раённага суда супярэчыць як Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, так і нормам міжнароднага права, у адпаведнасці з якімі кожны грамадзянін мае права на свабоду перакананняў і свабодны распаўсюд інфармацыі.

Нагадаем, што 12 жніўня суддзя суда Магілёўскага раёна Станіслаў Леўчанка пакараў штрафам у памеры 30 базавых велічынь рэдактара газеты "Наш Магілёў" Ігара Барысава. Суд прызнаў І.Барысава вінаватым у парушэнні Закона аб СМІ і незаконным распаўсюдзе друкаванай прадукцыі, хоць сам журналіст сцвярджаў, што ён не распаўсюджваў газету "Наш Магілёў" і бюлютэнь "Сацыял-дэмакрат", а проста перавозіў іх у асабістым аўтамабілі.

Ноччу 16 ліпеня аўтамабіль Ігара Барысава быў спынены супрацоўнікамі ДАІ каля вёскі Сумарокава Магілёўскага раёна. Разам з Ігарам Барысавым у аўтамабілі знаходзіўся яшчэ адзін сябар ГА "БАЖ", вядомы беларускі палітык Рыгор Костусёў. Супрацоўнікі ДАІ паведамілі журналісту, што на яго аўтамабіль прыйшла арыенціроўка, нібы на ім здзейснена хуліганства ў Бялынічах. Пасля праверкі дакументаў і агляду аўтамабіля машына была накіраваная ў РАУС Магілёўскага раёна для далейшага разбіральніцтва.

У РАУСе Магілёўскага раёна супрацоўнікамі міліцыі быў складзены пратакол апытання Ігара Барысава і пратакол агляду аўтамабіля. Знаходзячаяся ў аўтамабілі друкаваная прадукцыя была канфіскаваная. Усяго супрацоўнікі міліцыі забралі 11 800 асобнікаў газеты "Наш Магілёў" і бюлетэня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) "Сацыял-дэмакрат".

*Барыс ВЫРВІЧ.*

# Пра карупцыю і пра тое, як з ёй змагаюцца

Беларускія ўлады абвесцілі пра хуткае прыняццё новага Закона "Аб барацьбе з карупцыяй" і зараз спрабуюць арганізаваць яго шырокае абмеркаванне сярод насельніцтва. Праўда, не зусім зразумела, чаму ім спатрэбілася прымаць і абмяркоўваць гэты закон менавіта зараз, бо і дзеючы аналагічны закон, на мой погляд, даволі добры.

Хоць тут якраз усё зразумела, - проста ўжо хутка ў краіне павінны адбыцца чарговыя прэзідэнцкія выбары, і Аляксандр Рыгоравіч і яго верныя чыноўнікі зноў вырашылі адыграць бяспройгрышную карту барацьбы з карупцыяй. Калі хто не памятае, то нагадаю, што перад кожнай выбарчай прэзідэнцкай кампаніяй у нас традыцыйна абвяшчаюць пра чарговае змаганне з праклятымі карупцыянерамі, ну а пасля Аляксандра Рыгоравіча "абіраюць" у чарговы раз прэзідэнтам, і яго слаўныя чыноўнікі пачынаюць красці яшчэ больш. Традыцыя ў Беларусі такая, што тут зробіш.

Вось і зараз Генеральная пракуратура з імпэтам паведаміла, што фактаў карупцыі за першае паўгоддзе 2014 года ў Магілёўскай вобласці выяўлена менш, праўда, тут жа адзначыла, што хабараў сталі браць значна больш.

У прыватнасці, у першым паўгоддзі 2014 года ў Магілёўскай вобласці зарэгістравана 131 злачынства карупцыйнай скіраванасці (у першым паўгоддзі 2013 года было 157), з іх 32 (50) – крадзёж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, 22 (22) – злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі, 7 (3) – перавышэнне ўлады альбо службовых паўнамоцтваў, 58 (36) – атрыманне хабару, 12 (39) – дача хабару.

Карупцыйныя злачынствы зарэгістраваныя ў сферах аховы здароўя – 61 (29), прамысловасці – 27 (21), адукацыі – 9 (11), будаўніцтва – 9 (9), гандлю – 9 (9), сельскай гаспадаркі – 9 (24), дзяржаўным кіраванні – 6 (4).




Узбуджана 10 крымінальных спраў у адносінах дэпутатаў Саветаў дэпутатаў 26 і 27 скліканняў. Ну што тут зробіш, любяць нашы дэпутаты дармавыя грошы.

Што цікава, дык гэта тое, што пачалося нейкае варушэнне па выяўленню злачынстваў карупцыйнай скіраванасці і сярод нашых слаўных бялыніцкіх чыноўнікаў. Нашы доблесныя бялыніцкія міліцыянеры адсправаздачыліся, што па выніках першага паўгоддзя ў Бялыніцкім раёне карупцыйных злачынстваў няма, супрацоўнікі ГБЭЗ здолелі выявіць толькі шэсць эканамічных злачынстваў. А тут знянацку высвятляецца, што супраць намесніка старшыні Бялыніцкага райвыканкама Андрэя Ярашэнкі ўзбуджана і расследуецца крымінальная справа.

Праўда, якія будуць вынікі гэтага расследвання, нам адказаць цяжка. Звычайна такія расследванні ў нашым Бялыніцкім раёне заканчваюцца нічым, бо ў нас тут працуюць, верагодна, самыя чэсныя чыноўнікі і кіраўнікі. Памятаеце ж добра, шаноўныя чытачы, як узбуджалі крымінальную справу супраць заслужанага ветэрана вытворчасці, дырэктара цэха па вытворчасці сыроў ААТ "Бабулін гладыш" Тамары Галёты? Пасля аказаўся чалавек абсалютна невінаваты.

Ці не менш слаўны былы дырэктар ААТ "Новая Друць" Ігар Бондараў, у якога немаведама куды падзелася процьма зерня з гаспадаркі ў незразумелыя фірмы, таксама ж абсалютна чэсны чалавек. Працягвае працаваць на высокай пасадзе ў ААТ "Племптушказавод "Беларускі" з сваім мудрым сябрам Аляксандрам Ільянавым, умацоўваючы эканамічны патэнцыял нашай радзімы. А тыя невядомыя злодзеі, якія з незразумелых прычын ледзь не зрабілі інвалідам яго пераемніка на пасадзе дырэктара ААТ "Новая Друць" Уладзіміра Канавалава, наколькі я ведаю, не знойдзены да гэтага часу.

Але што тут зробіш, як тут крыўдзіцца на нашых слаўных супрацоўнікаў бялыніцкай міліцыі, яны і забойцаў сям'і з шасці чалавек у вёсцы Вялікая Машчаніца дзевяць з лішкам гадоў знайсці не могуць. Гэта ж сапраўды складаная справа, канешне, штрафы адміністрацыйныя "паддатым" грамадзянам выпісваць і "рогі настаўляць" мужыкам, што ў Расіі на заробках працуюць, значна прасцей…

Наогул, з карупцыйнымі злачынствамі ў нас у Бялыніцкім раёне складана. З імёнаў, якія на слыху, наколькі я памятаю, быў прыцягнуты ў свой час да адказнасці Анцыпіровіч. Ды яшчэ ў вельмі далекія гады далі ўмоўныя тэрміны былому начальніку ўп-

раўлення сельскай гаспадаркі Кудраўцаву ды Гапееву, які тады ўзначальваў калгас імя Ільіча. А так поўны парадак, ніхто хабар не бярэ і са сваіх прадпрыемстваў не цягне.

Іншая справа, што тыя ж самыя слаўныя бялыніцкія міліцыянеры ў прыватных гутарках кажуць, што ў сельскагаспадарчых прадпрыемствах "крадуць усе". Аднак гэта ж яны ў прыватных гутарках кажуць…

Неабходна адзначыць, што ў нашых суседзяў з выяўленнем карупцыйных злачынстваў справы ідуць значна лепш. У суседнім Круглянскім раёне ў мінулым годзе за хабар пасадзілі начальніка мясцовай "хіміі", за злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі – начальніка аддзела адукацыі райвыканкама, зараз расследуецца крымінальная справа па аналагічнаму абвінавачванню ў адносінах пасадавай асобы з Круглянскай ПМК-266, якой інкрымінуюць прынясенне страт арганізацыі ў памеры 206 мільёнаў рублёў.

Што ж датычыцца Шклоўскага раёна, дык там наогул нейкі "карупцыйны Кландайк" – каго-небудзь садзяць пастаянна, аднак хабарнікаў і карупцыянераў ад гэтага там менш не становіцца. Садзіць за краты і ўзбуджаць крымінальныя справы супраць кіраўнікоў мясцовага жылкамгаса у Шклоўскім раёне наогул стала добрай трады-цыяй, рэгулярна ў некія карупцыйныя злачынствы "уляпываюцца" і мясцовыя высокія чыноўнікі. Пра што казаць, калі зараз за кратамі знаходзіцца былы начальнік Шклоўскага аддзела ДФР КДК, па падазрэнні ў атрыманні хабару затрыманы былі першы намеснік старшыні Шклоўскага райвыканкама М., узбуджана крымінальная справа ў адносінах да іншага намесніка старшыні райвыканкама С., а яшчэ цэлы шэраг чыноўнікаў і кіраўнікоў рэгулярна сустракаюцца з супрацоўнікамі следчых органаў, каб распавесці, што ж іх штурхнула на здзяйсненне шматлікіх парушэнняў заканадаўства.

У Магілёўскім раёне таксама ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах намесніка старшыні мясцовага райвыканкама па будаўніцтву Сяргея Арцёмчыка.

Ну што тут зробіш, ня спяць у шапку нашы слаўныя чыноўнікі, ня спяць...

Наогул, як адзначае намеснік пракурора Магілёўскай вобласці Сяргей Сільвановіч, *"нават чыста візуальна можна вызначыць, што належачыя многім асобам раскошныя асабнякі, дарагія транспартныя сродкі, немагчыма мець за тое грашовае забеспячэнне, якое яны атрымліваюць".* Ну нельга не пагадзіцца з шаноўным пракурорскім работнікам, самі добра бачым гэта на ўласныя вочы.

Аднак у нейкія поспехі ў барацьбе з карупцыяй я асабіста ўсё роўна не вельмі веру. Пройдуць чарговыя прэзідэнцкія выбары, скончыцца гучная антыкарупцыйная кампанія, і ўсё зноў будзе, як і зараз – тыя, хто пры ўладзе, будуць багацець, ну а просты народ будзе глядзець па тэлебачанню і чытаць у дзяржаўных газетах пра сваё шчаслівае жыццё ў квітнеючай Беларусі.



***Іван БАРЫСАЎ.***

## АДУСЮЛЬ ПАКРЫХУ

**Почти три тонны пшеницы похитила средь бела дня рабочая завода в Климовичском районе с территории зернотока. В рабочее время женщина подошла к водителю предприятия и сказала, что зерно выписано ей, и для убедительности даже помахала якобы подтверждающими это документами. Ничего не подозревающий мужчина вывез около трех тонны пшеницы и выгрузил у ее дома. Однако невесть откуда взявшийся урожай обратил на себя внимание местных жителей, которые и сообщили об этом в милицию.**

**Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по статье «Кража». В соответствии с законодательством наказание по данной статье – от штрафа и исправительных работ до трех лет лишения свободы. Пшеница на общую сумму более Br 6 млн. изъята.**

**Более 4,5 тыс. студентов и учащихся Могилевской области помогут аграриям убирать урожай. В Могилеве сформирован 141 сельхозотряд. Около трех тысяч человек, приступят к работе 16 сентября. Помощников ждут в фирмах Кадино, Вейно, СП «Арника» и других. Их число превышает прошлогодний уровень примерно на 600 человек. Обусловлено это хорошим урожаем плодоовощной продукции и корнеплодов. К занятиям в учебных аудиториях молодежь приступит в октябре.**

## ОТОВСЮДУ ПОНЕМНОГУ

**Новые хозяева завода безалкогольных напитков "Вейнянский родник" компания "СтройИнвестКонтакт" намерены инвестировать в модернизацию около $1 млн. Было решено оставить прежним уже известный и раскрученный на рынке бренд "Вейнянский родник". Сейчас в производственных цехах ведется тестирование старого оборудования, а также прорабатывается вопрос о закупке нового в Польше и России. Планируется начать выпуск питьевой и минеральной воды, а затем осваивать линейку сладких газированных, сокосодержащих и слабоалкогольных напитков.**

# Пра подзвігі і патрыятызм

Апошнім часам шэраг маіх добрых знаёмых і нават блізкіх сяброў выказвае непрыкрытае захапленне подзвігамі вялікай расійскай арміі, якая, разам з гераічнымі апалчэнцамі, дубасіць "хахлоў-пендосаў" на Данбасе.

Па маіх родных Бялынічах, ды і па іншых населеных пунктах нашага рэгіёна, катаюцца дзясяткі, калі не сотні, аўтамабіляў з "каларадскімі" стужкамі і расійскімі сцяжкамі. Шчыра кажучы, у староннягa назіральніка нават можа скласціся ўражанне, што прыхільнікаў "вялікай Расіі" і "рускага міра" у нас вельмі шмат.Прычым ёсць сярод іх дзяржаўныя чыноўнікі, супрацоўнікі праваахоўных органаў, настаўнікі і гэтак далей.




Што ж, кожны мае права на ўласныя погляды і меркаванні. Аднак слаўным патрыётам "рускага міра" з нашага рэгіёна хацелася б нагадаць, што яны жывуць усё-ткі ў краіне пад назвай Беларусь і, па вызначэнню, незалежна ад нацыянальнасці, павінны быць патрыётамі сваёй краіны. Калі ж вы лічыце, што вялікая Расія вам бліжэй да сэрца, - калі ласка, наперад, Расія сапраўды вялікая, месца там усім хопіць. Будзе магчымасць вам (альбо вашым дзеткам і ўнучыкам) уступіць у слаўную расійскую армію, а там і паваяваць далей у Украіне, ці дзе-небудзь яшчэ, Расія ж шмат дзе ваюе. Калі што, пазней пахаваюць дзе-небудзь пад плотам без пазначання імя, як пахавалі ўжо сотні "невядомых" салдат,бо Расія, як вядома, у вайне ў Украіне не ўдзельнічае.

Але, магчыма, вам альбо вашым дзецям пашчасціць, і вы проста застанецеся калекай на ўсё астатнее жыццё, будзеце пасля прасіць міласціну каля маскоўскага метро, як гэта робяць дзясяткі ветэранаў чачэнскай вайны. Затое ў вас застанецца маральнае задавальненне, што вы пашырылі межы "рускага міра" і што, дзякуючы вашым подзвігам, расейскія мільярдэры змогуць набыць яшчэ больш нерухомасці ў "пендоскай" Еўропе, а таксама добра адпачыць са шлюхамі ў Куршавэле. Дарэчы, мільярдэры вялікай Расіі яе вельмі любяць. Праўда, у асноўным на адлегласці, бо самі стала пражываюць разам з дзеткамі ў "пендосаў" у Еўропе ці ў "загніваючых" Штатах.

Таксама існуе магчымасць, што вашым слаўным дзеткам, якія будуць прызваныя ў вялікую расійскую армію, нават у баях удзельнічаць не давядзецца – і так свае саслужыўцы "угрохаюць",папярэдне паздзекаваўшыся. Патрыётам вялікай Расіі раю зазірнуць у інтэрнэт і паглядзець, колькі сотняў людзей гіне ў расійскім войску штогод пры нявысветленых абставінах.

Таксама хачу нагадаць слаўным расійскім патрыётам, што гэта не Украіна адабрала ў Расіі Крым, парушыўшы ўсе магчымыя дамовы. І не ўкраінскія салдаты ваююць дзе-небуць у Тамбоўскай альбо Растоўскай губерніі, а якраз наадварот.

Ну а патрыёты Беларусі няхай жывуць у Беларусі, і будуць заўжды гатовы абараніць свабоду і незалежнасць сваёй краіны ад любых агрэсараў – як з Захаду, так і з Усходу.

***Іван БАРЫСАЎ.***




Магілёўскі ВЫБАР

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 4.09.2014 г. у 10.00.